


**Міхась МІРАНОВІЧ**

## Часцей страчаюцца




Няўзнак
З'яўляецца трывога –
І ад яе
Не заракаюцца:
Благіх людзей
Не так і многа,
Але яны
Часцей страчаюцца.

## Фальш



Маем нярэдка
Бяду ад раскошы,
Грошай суседства
Да фальшу вядзе:
Людзі друкуюць
Фальшывыя грошы,
Грошы фальшывымі
Робяць людзей.

## Памяняла замок



Ад роспачы
Хоць ты сядай і крычы.
Патраціўшы часу
Нямала,
Да сэрца твайго
Падабраў я ключы.
А ты?
Ты замок памяняла!

## Сумная справа



Хобі,
Забава?
Не здолеў
Рашыць.
Сумная
Справа –
Людзей
Рассмяшыць.

## Мазалі



Мазоліць мозг
Тытан навукі,
Язык мазоліць
Дэпутат,
І хлебароб
Мазоліць рукі,
А бюракрат –
Мазоліць зад.

## Курка Раба



Жылі, як кажуць,
Дзед і баба,
Ім несла яйкі
Курка Раба.
Як гэта
Здарыцца магло?
У дзеда ж пеўня
Не было!



## Чужыя парады




Парады слухаць
Міла,
Ды, людцы
Дарагія,
Замест сваіх
Памылак
Пачнеш рабіць
Чужыя.

## Як серада на пятніцу



Як двоечнік у школе
На выдатніцу,
Так на цябе гляджу,
Усёй душой павер.
Ты ж на мяне –
Як серада на пятніцу,
Нягледзячы, што сёння ў нас
Чацвер.

*г. Віцебск.*



Мікола ГІРГЕЛЬ.






## Клептаманія ці не?

*Міні-фельетон*

Клептаманія — хваравітая цяга, якая праяўляецца ў непераадольным жаданні красці рэчы. Прычым звычайна яны не маюць вялікай каштоўнасці. Хворы проста атрымлівае задавальненне ад рызыкі. Ён выразна ўсведамляе, што парушае закон, раскайваецца за свой учынак, але кантраляваць сябе не можа. Клептаман проста не ведае, чаму так адбываецца.

Вучоных, якія займаюцца даследаваннем гэтай хваробы, верагодна зацікавіў бы нядаўні выпадак, які адбыўся ў Беларусі. Хочаце — верце, хочаце — не, але на клептаманію захварэлі адразу тры злодзеі. Як такое магчыма, спытаеце вы?

Тлумачым. Трое жыхароў былі нячыстыя на руку і зараблялі на жыццё крадзяжамі. Каталіся па ўсёй рэспубліцы. Калі траплялася магчымасць, залазілі ў памяшканні — дачы, гаражы, хлявы — і нажываліся на няўважлівасці гаспадароў. У чым жа праяўлялася клептаманія? А ў тым, што мужчыны з задавальненнем прысвойвалі ўсё: газавыя катлы, дарагія станкі, будаўнічы інструмент, старую аўдыётэхніку і нават ручнікі, посуд. Сума выкрадзенага вар'іравалася ад дзясяткаў да тысяч рублёў.

Пры гэтым злодзеі дзейнічалі як рызыковыя героі галівудскіх фільмаў: ноччу здзяйснялі злачынствы, а днём адсыпаліся на паркоўках у машыне або арандаваным жыллі. Загадзя планавалі маршруты, каб пазбегнуць сустрэчы з ДАІ.

Лічыцца, што на рахунку злодзеяў больш за 70 крадзяжоў па ўсёй Беларусі. Асабліва пацярпела Віцебская вобласць. Пасля затрымання мужчын у ходзе следства высветлілася, што яны часцей за ўсё выбіралі гэтую вобласць з-за блізкасці з расійскай мяжой. Выкрадзенае адразу ж вывозілася на тэрыторыю краіны-суседкі, дзе і збывалася скупшчыкам.

Канешне, у зале суда злачынцы могуць пачаць апраўдвацца, маўляў, у нас хвароба. Але наўрад ці суд прыме гэта пад ўвагу. Клептаманія клептаманіяй, а за крадзяжы давядзецца адказваць па ўсёй строгасці нашага заканадаўства.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Алег ГУЦОЛ.

# Эпіграмы

**Мікола ШАБОВІЧ**

### Дзмітрыю ДЗЕМІДОВІЧУ

Празаік добры і паэт,
Спасціг і гумару сакрэт.
Ён набывае літвагу,
Каб доўжыць Коласа сцягу.
З сябрамі адпачыць ахвотнік...
І на суботніку — работнік!

### Валянціне ПАЛІКАНІНАЙ

Ваш верш — як першая
праталіна,
Што гоніць прэч зімовы боль.
О Валянціна Паліканіна —
Жаночай вабнасці сымболь!

**Анатоль ЗЭКАЎ**

### Генадзю АЎЛАСЕНКУ

Калі сур'ёзна, калі жартам
У спёку нават піша, піша...
Бо пад «Бярозкай» вентылятар
Ў Генадзя з вецярком,
між іншым.

### Ірыне БАГДАНОВІЧ

І паэтэса, і даследчык
З душой ды сэрцам пілігрыма.
І гэта ўсё — гатоў засведчыць —
Ірына з прозвішчам Максіма.

### Міхасю БАШЛАКОВУ

Чытаючы з надрывам вершы,
Высільваецца аж занадта.
Паэт ён, можа, і не першы,
Аднак акцёр пры тым выдатны.

### Леаніду ДРАНЬКО-МАЙСЮКУ

Дзяўчаты, Лёню палюбіўшы,
Глядзяць услед з замілаваннем,
Бо ён, хоць «Стомлены Парыжам»,
Зусім не стомлены каханнем.

### Алесю КАРЛЮКЕВІЧУ

З Шубуршуном ён зліўся так,
здаецца,
Што Шубуршун паўсюль —
і тут, і там.
І ўжо наўрад цяпер
хто разбярэцца,
Дзе Шубуршун, дзе ўласна аўтар
сам.

### Рагнеду МАЛАХОЎСКАМУ

Дагэтуль мы Рагнеду ведалі,
Пра тое нават і не марачы,
Што зваць пачнуць мужчын
Рагнедамі,
Ну хоць бы аднаго — на Нарачы.



Пётр КОЗІЧ.

# Вясёлы слоўнік

Абрус — эмігрант у Расіі.

Верашчака — крыклівае немаўля.

Выток — лінія электраперадач.

Дзіда — дзедава жонка.

Дзядзінец — сходка пенсіянераў.

Каморнік — прусак.

Планіда — жанчына-архітэктар.

**Даслаў Мікалай НАВАРЫЧ,**
*г. Мінск.*




**Андрэй СІДАРЭЙКА**

# РЫБАЦКІ САКРЭТ

*Іранеска*

На выхадных усе знаёмыя адпраўляліся вудзіць рыбу, адзін я – на дачу. Пакуль сябры цягалі шчупакоў, я корпаўся ў агародзе. У рэшце рэшт такая несправядлівасць мне надакучыла, і я накіраваўся ў спецыялізаваную краму па рыбалоўныя прынады.

У суботу выбраўся на рэчку. Закінуў вуду і стаў чакаць. Але ні праз гадзіну, ні праз дзве паплавок так і не варухнуўся. Яго не гайдаў нават вецер.

Неўзабаве непадалёк заўважыў дзеда, які раз за разам цягаў рыбу. Падышоў і кажу:

– Добры дзень! Ведаеце, я пачатковец у рыбалоўстве, не маглі бы даць якую-небудзь параду?

Стары ўсміхнуўся і прамовіў:

– Галоўны сакрэт – у прыкметы трэба верыць. Я, напрыклад, на рыбалку ўжо трыццаць год толькі ў касцюме хаджу. Рыба бачыць, што сядзіць салідны чалавек, таму і клюе.

Пачухаў я патыліцу, склаў вуду і адправіўся дамоў ні з чым. Аднак паабяцаў сам сабе, што наступны раз абавязкова вярнуся з уловам. Тым больш цяпер скарыстаюся рыбалоўным сакрэтам.

Праз тыдзень, апрануўшы лепшы касцюм, накіраваўся на рэчку. Закінуў вуду, стаў чакаць. За гадзіну толькі некалькі невялічкіх карасікаў злавіў. Відаць, думаю, не дзейнічае дзедава прыкмета. І тут непадалёк убачыў мужчыну, які ўмела цягаў рыбу, вялікую і бліскучую. Я да яго:

– Падкажы, браце, што рабіць? Як рыбы налавіць? – пытаюся. – Нават лепшы касцюм апрануў, а яна не клюе.

– Што касцюм, – адказаў той. – Рыбалка – гэта табе не хухры-мухры, тут трэба дакладна ведаць, што рыбе падабаецца. А любіць яна тонкі пах парфумы. Вось я набываю самую лепшую – французскую. Чуеш водар?

Я прынюхаўся. Здавалася, і сапраўды, ад рыбака ішоў прыемны пах дарагой парфумы.

– Ага, чую, – адказаў я.

– Вось у гэтым і сакрэт, – падміргнуў новы знаёмы.

Сабраўшы свой няхітры ўлоў, накіраваўся дадому. А па дарозе зайшоў купіць адэкалон. Трэба ж было прыслухацца да парады мужчыны.

Як насталі чарговыя выхадныя, зноў адправіўся на раку. Але і на гэты раз клявала дрэнна. Відаць, не спадабалася рыбе мая парфума. А тут, як на тое ліха, іншы рыбак шчупака кілаграм на дзесяць злавіў. Я да яго:

– Як вам пашанцавала! Можа, і з навічком сакрэтам свайго поспеху падзеліцеся?

– Да рыбалкі трэба рыхтавацца сур'ёзна, – пачаў новы знаёмы. – З панядзелка да серады я, напрыклад, устаю толькі з левай нагі. Наступныя тры дні – з правай. Вуду на ноч стаўлю за ложак, а днём трымаю за канапай. Вось і вынік – дзесяцікілаграмовы шчупак!

Падзякаваў яму, а сам адправіўся дадому. Увесь наступны тыдзень апрабоўваў новую методыку прыцягвання рыбалоўнай удачы.

Але, на жаль, у наступную суботу і гэтая парада не падзейнічала. Расчараваны, вярнуўся дадому. Вырашыў – на рыбалку больш ні нагой. У чарговыя выхадныя накіраваўся да цесця ў вёску. А там пад шкварку ды чарку расказаў яму пра свае няўдалае рыбалоўства.

– Хто ж табе праўду скажа? – здзівіўся цесць. – Вядома, маняць. Ніякі сапраўдны рыбак не стане раскрываць галоўны сакрэт. А ён усё ж існуе.

– Які? – усхвалявана спытаў я.

– Рыбу трэба падкарміць, а ўжо потым толькі лавіць.

Тут цесць у падрабязнасцях расказаў мне, што і як трэба рабіць.

На працягу наступнага тыдня я выконваў ягоныя парады. Штовечар ездзіў на рэчку і вазіў рыбе розныя далікатэсы: грэчку, ячныя, прасяныя крупы... А ў нядзелю выправіўся на рыбалку.

Не паспеў закінуць вуду, як адразу пачало кляваць. Вылавіў пяцікілаграмовага шчупака. А там яшчэ лепш: плотка, карась, лінь, лешч... Словам, багаты ўлоў!

З таго часу вяртаюся я з рыбалкі заўсёды з трафеямі. Дзякуй цесцю за параду!

А на днях да мяне рыбак-пачатковец падышоў і запытаўся:

– Не падкажаце, які ў вас рыбалоўны сакрэт? Сяджу ўжо бітую гадзіну, паплавок нават не варухнецца. А ў вас, бачу, рыба сама ў вядро скача.

– Вядома, – адказваю яму, – у прыкметы трэба верыць. Напрыклад, трэба кожны дзень уставаць з левай нагі, а шкарпэткі пачынаць апранаць з правай, некалькі дзён не галіцца, карыстацца толькі французскай парфумай і прыязджаць на рыбалку ў сваім лепшым пінжаку.

– І толькі? – яшчэ больш здзівіўся новы знаёмы.

– Так, – адказваю сур'ёзна. – Вось пабачыш!

Падзякаваў ён мне ды пабег. А я працягнуў спакойна лавіць шчупакоў. Бо сапраўдны рыбалоўны сакрэт нікому не выдам!

Так усе рыбакі робяць!

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*

## Прыпеўкі

Пакахала вадалаза –
З ім мучэнне мне адно:
Запрашае на спатканне
Не на бераг, а на дно.

***

Ўпадабала я прараба,
Вось, дальбог, дурная баба:
Мне казаў – перадавік,
Сам не ўбіў у сценку цвік.

***

Прыляцелі птушкі-гусі,
Крыламі лапочуць.
Хлопцаў многа у Данусі –
Замуж браць не хочуць.

***

Дзве руплівыя суседкі
Пад акном гадуюць кветкі.
А да трэцяй як зайду,
Бачу толькі лебяду.

***

Ходзіць кавалер да Ганны,
Кажуць, неблагі пастух:
У цяньку штодня за крамай
Пасвіць камароў ды мух.

***

Мы з сяброўкаю на пару
Паддаём у лазні пары.
Венікамі лупімся –
Пра здароўе рупімся.

**Праспявала**
**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ,**
*г. Клецк.*

## Каларадскае нашэсце

На полі, на ўчастках, на дачах, на градках –
Нашэсце жукоў у турэмных апратках.
Упартых, жывучых жукоў акаянных,
Прыблудаў няпрошаных з-за акіяна.
Чаго захацелася ім – невядома,
Участак зрабілі наш аэрадромам.
Гудуць, распрамляюць бліскучыя крыльцы,
Адзін мне на лысіну проста садзіцца.
І топчуць з усходу да прыцемкаў самых
Аранжавапузых згаворлівых самак.
А тыя без продыху і без спачынку
Штампуюць лічынак, штампуюць лічынак.
Згубіць ураджай бульбяны гэтак можна!
Па пары дзясяткаў на каліве кожным.
Квітнее вытворчасць ўсялякай атруты,
А бульба усё ж вырастае сапсутай...

**Фёдар ГУРЫНОВІЧ,**
*г. Салігорск.*




Сяргей ВОЛКАЎ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




*Ільф і Пятроў – савецкія пісьменнікі-суаўтары Ілля Ільф (1897–1937) і Яўген Пятроў (1902–1942). Нарадзіліся ў горадзе Адэса. Сумесна напісалі знакамітыя раманы «Двенадцать стульев» (1928) і «Золотой телёнок» (1931). Друкавалі свае фельетоны ў такіх выданнях, як «Гудок», «Смехач», «Красный перец», «Красная оса», «Огонёк», «Чудак», «Правда» і іншых.*



## Як ствараўся Рабінзон

*Фельетон*

У рэдакцыі ілюстраванага двухдэкадніка «Прыгодніцкая справа» адчуваўся недахоп мастацкіх твораў, здольных прыкаваць увагу моладзі.

Былі сякія-такія творы, але ўсё не тое. Занадта шмат было ў іх сур'ёзнасці. Па праўдзе, яны азмрочвалі маладога чытача, не прыкоўвалі. А рэдактару хацелася менавіта прыкаваць.

У рэшце рэшт вырашылі заказаць раман з працягам.

Рэдакцыйны скараход паімчаў з прапановай да пісьменніка Малдаванцава, і ўжо на другі дзень той сядзеў на купецкай канапе ў кабінеце рэдактара.

– Вы разумееце, – тлумачыў рэдактар, – раман павінен быць займальным, свежым, поўным цікавых прыгод. Накшталт савецкага Рабінзона Круза. Так, каб чытач не мог адарвацца.

– Рабінзон? Гэта можна, – коратка сказаў пісьменнік.

Пісьменнік быў маўклівы. Адразу відаць, што гэта чалавек справы.

І сапраўды, раман падаспеў да вызначанага тэрміну. Малдаванцаў не надта адхіліўся ад арыгінальнага сюжэта. Рабінзон дык Рабінзон.

Савецкі юнак перажывае караблекрушэнне. Хваля выносіць яго на бязлюдны востраў. Ён адзін на адзін перад тварам магутнай прыроды. Яго падсцерагае небяспека: звяры, ліяны, перыяд дажджоў. Але савецкі Рабінзон, поўны энергіі, пераадольвае ўсе перашкоды. І праз тры гады савецкая экспедыцыя знаходзіць яго, знаходзіць у росквіце сіл. Ён перамог прыроду, выбудаваў домік, акружыў яго зялёнымі агародамі, развёў трусоў, пашыў сабе целагрэйку з малпавых хвастоў і навучыў папугая будзіць сябе раніцай словамі: «Увага! Скіньце коўдру, скіньце коўдру! Пачынаем ранішнюю гімнастыку!»

– Вельмі добра, – сказаў рэдактар, – а пра трусоў проста цудоўна. Сучасна. Але, вы ведаеце, мне не зусім зразумела асноўная думка твора.

– Барацьба чалавека з прыродай, – са звычайнай сцісласцю паведаміў Малдаванцаў.

– Так, але тут няма нічога савецкага.

– А папугай? Бо ён замяняе радыё. Дасведчаны перадатчык.

– Папугай – гэта добра. І кола агародаў добра. Але не адчуваецца савецкай грамадскасці. Дзе, напрыклад, мясцкам? Кіруючая роля прафсаюза?

Малдаванцаў раптам захваляваўся. Як толькі ён адчуў, што раман могуць не ўзяць, сціпласць яго ўміг знікла. Ён стаў красамоўны.

– Адкуль жа мясцкам? Востраў жа бязлюдны?

– Так, праўда, бязлюдны. Але мясцкам павінен быць. Я не мастак слова, але на вашым месцы я б увёў яго ў раман. Як савецкі элемент.

– Але ж увесь сюжэт пабудаваны на тым, што востраў бязлю ...

Тут Малдаванцаў выпадкова паглядзеў у вочы рэдактара, запнуўся і вырашыў пайсці на кампраміс.

– А вы маеце рацыю, – сказаў ён, падымаючы палец. – Канешне. Як гэта я адразу не зразумеў? Ратуюцца ад караблекрушэння двое: наш Рабінзон і старшыня мясцкама.

– І яшчэ два вызваленыя члены, – холадна сказаў рэдактар.

– Ой! – піскнуў Малдаванцаў.

– Нічога не ой. Два вызваленыя, ну і адна актывістка, зборшчыца членскіх узносаў.

– Навошта яшчэ і зборшчыца? У каго яна будзе збіраць членскія ўзносы?

– А ў Рабінзона.

– У Рабінзона можа збіраць узносы старшыня. Нічога яму не зробіцца.

– Вось тут вы памыляецеся, таварыш Малдаванцаў. Гэта абсалютна недапушчальна. Старшыня мясцкама не павінен разменьвацца на дробязі і бегаць збіраць узносы. Мы змагаемся з гэтым. Ён павінен займацца сур'ёзнай кіруючай працай.

– Тады можна і зборшчыцу, – скарыўся Малдаванцаў. – Гэта нават добра. Яна выйдзе замуж за старшыню ці за таго ж Рабінзона. Усё ж такі весялей будзе чытаць.

– Не трэба. Не лезьце ў бульваршчыну, нездаровую эротыку. Няхай яна збірае сяброўскія ўзносы і захоўвае іх у незгаральнай шафе.

Малдаванцаў закруціўся на канапе.

– Дазвольце, незгаральнай шафы не можа быць на бязлюдным востраве!

Рэдактар задумаўся.

– Чакайце, – сказаў ён, – у вас там у першай частцы ёсць цудоўнае месца. Разам з Рабінзонам і членамі мясцкама хваля выкідае на бераг розныя рэчы...

— Сякеру, карабін, бусоль, бочку рому і бутэльку са сродкам ад цынгі, — урачыста пералічыў пісьменнік.

— Ром выкрасліце, — хутка сказаў рэдактар, — і потым, што гэта за бутэлька са сродкам ад цынгі? Каму гэта трэба? Лепш хай там будзе чарніла! І абавязкова не забудзьцеся на незгаральную шафу.

— Навошта вам гэтая шафа! Узносы можна выдатна захоўваць у дупле баабаба. Хто іх там украдзе?

— Як хто? А Рабінзон? А старшыня мясцкама? А вызваленыя члены? А ўдзельнікі камісіі?

— Хіба яна таксама ўратавалася? — баязліва спытаў Малдаванцаў.

— Уратавалася.

Павісла маўчанне.

— Можа, і стол для пасяджэнняў выкінула хваля? — яхідна спытаў аўтар.

— Добрая ідэя! Трэба ж стварыць людзям умовы для працы. Ну, там графін з вадой, званочак, абрус. Абрус хай хваля выкіне які заўгодна. Можна чырвоны, можна зялёны. Я толькі за мастацкую творчасць. Але вось што трэба зрабіць у першую чаргу — гэта паказаць шырокія пласты працоўных.

— Хваля не можа выкінуць на бераг столькі людзей, — заўпарціўся Малдаванцаў. — Гэта ідзе насуперак сюжэту. Падумайце! Хваля раптам выкідае на бераг некалькі дзясяткаў тысяч чалавек! Гэта ж курам на смех.

— Дарэчы, невялікая колькасць здаровага, бадзёрага, жыццярадаснага смеху, — уставіў рэдактар, — не перашкодзіць.

— Не! Хваля гэтага не можа зрабіць.

— Чаму хваля? — здзівіўся раптам рэдактар.

— А як жа інакш людзі патрапяць на востраў? Востраў жа бязлюдны?!

— Хто вам сказаў, што ён бязлюдны? Вы нешта блытаеце. Існуе востраў, лепш нават паўвостраў. Так яно спакайней. І там адбываецца шэраг займальных, свежых, цікавых прыгод. Вядзецца прафработа, часам недастаткова вядзецца. Актывістка выкрывае шэраг непаладак, ну хоць бы ў галіне збірання членскіх узносаў. Ёй дапамагае старшыня. Пад канец можна даць агульны сход. Гэта атрымаецца вельмі эфектна менавіта ў мастацкіх адносінах. Ну, і ўсё.

— А Рабінзон? — пралапатаў Малдаванцаў.

— Так. Добра, што вы мне нагадалі. Рабінзон мне не падабаецца. Выкіньце яго зусім. Недарэчная, нічым не апраўданая фігура ныціка.

— Цяпер усё зразумела, — сказаў Малдаванцаў магільным голасам, — заўтра будзе гатова.

— Ну, усё. Пішыце. Дарэчы, у вас у пачатку рамана адбываецца караблекрушэнне. Ведаеце, не трэба гэтага. Хай будзе без караблекрушэння. Так больш займальна. Правільна? Ну і добра.

Застаўшыся адзін, рэдактар радасна засмяяўся.

— Нарэшце,— сказаў ён, — у мяне будзе сапраўдны прыгодніцкі і прытым цалкам мастацкі твор.

*«Праўда», 1932 г.*

## Будзь здароў без дактароў!










Алег ПАПОЎ х 3.




**Леў ЛАЙНЕР**

## Акно

*Гумарэска*

Калі ў Марыны збіраюцца госці – якое свята ці проста так пагуляць – яна любіць глядзець у акно.

У доме насупраць на пятым паверсе, трэцяе акно злева, жыве барадаты юнак. Так яго назвала Марына. З пакоя барадатага юнака па вечарах льецца ружовае святло. Не чырвонае, не сіняе, не жоўтае, як у іншых вокнах, а менавіта ружовае. І менавіта льецца.

Марына мяняе закускі на гарачае, потым глядзіць, як Вадзім ставіць на далонь кілішак з каньяком, хапае яго вуснамі і выпівае нагбом. Яна ўсміхаецца і нібы выпадкова сядае так, каб можна было бачыць акно ў доме насупраць. У акне відаць частку акварыума з залатымі рыбкамі. Часам над акварыумам схіляецца барадаты юнак і нешта гаворыць. Напэўна: «Мілыя вы мае», – думае Марына.

Паміж гарачым і гарбатай звычайна бываюць танцы. Равуць бас-гітары, іх змяняюць французскія шансанье і нашы менестрэлі. Марына ўзгадвае: не раз і не два яна бачыла, як малады чалавек з барадой браў у рукі гітару і нешта спяваў. Вось так проста спяваў, самому сабе. Пра што ён спяваў, для Марына загадка. Але, напэўна, пра штосьці вельмі добрае, лічыць яна.

Пасля танцаў па ўсталяванай у кампаніі традыцыі пачынаецца так званая весялосць. Сяргей Сіўцаў бярэцца тушыць аб язык запалкі, Светка смешна дражніць сваю суседку, Алік выдае чарговую серыю абстрактных анекдотаў, якія, бажыцца ён, літаральна ўчора сам прыдумаў. Гэтую частку вечарынак Марына любіць больш за ўсё. Але калі ў акне дома насупраць гасне святло, яна становіцца не тое каб сумнай, а трошкі задумлівай.

...Званок пачуўся нечакана.

– Прабачце, вельмі курыць хочацца. Толькі ў вас святло гарыць. Цыгарэт не пазычыце? – спытаў барадаты юнак.

– Ды вы праходзьце, – запрасіла Марына і падумала: «Вось і пазнаёміліся».

У пакоі, стаміўшыся ад весялосці, гулялі ў гарады.

– Варонеж, – сказаў Вадзім.

– Жмерынка, – рассмяялася Светка.

– Апія, – сказаў барадач.

– Апія, што гэта? – здзівіўся Сяргей.

– Сталіца вострава Кука ў Новай Зеландыі, – адказаў нязваны госць.

– Гэта там, дзе кенгуру? – пацікавілася Марына.

– Там, дзе кенгуру, – пацвердзіў барадаты юнак.

– Іншаземныя гарады нельга, – заўважыла Тамара.

І толькі тут усе зразумелі, што прыйшоў абсалютна незнаёмы чалавек. Ён сказаў пра цыгарэты. Назбіралі яму штук пяць з розных пачкаў.

– Ды вы сядайце, сядайце, – мякка сказала Марына.

Ён сеў. Памаўчалі.

– Давайце зноў весяліцца, – нявесела сказаў Алік. Яго нядружна падтрымалі і чамусьці ўсе паглядзелі на барадача.

Ён усміхнуўся, дастаў з кішэні запалкі і сказаў:

– Фокус па сістэме Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі.

Пасля гэтага пачаў тушыць аб язык запалкі.

Госць паставіў на далонь кілішак, абхапіў яго вуснамі і выпіў нагбом.

– Та-ак, – не вытрымала Тамара, – я, відаць, пайду.

Ад выпітага госцю стала, напэўна, хораша і весела.

– Такі анекдот, – сказаў ён. – Сустракаюцца дзве птушкі: карова і конь. Тады жырафа і кажа...

– Гэты анекдот я прыдумаў, – сказаў Алік. – Учора.

Марына выйшла на балкон. У доме насупраць на пятым паверсе трэцяе акно злева было цёмным.

**Пераклад з рускай Веранікі МАНДЗІК.**




Сяргей СПАСКІ,
*Кракадзіл №11, 1987 г.*

# эканомія

*Гумарэска*

Чарговую нараду па энергазберажэнні распачаў дырэктар трэста сталовых і рэстаранаў Іван Іванавіч Чарпак:

— Ва ўмовах сусветнага крызісу трэба разлічваць толькі на сябе. Хопіць транжырыць. Кожны рубель павінен быць на ўліку! Будзем эканоміць на ўсім: выйшаў з кабінета — выключы за сабой святло, дзе дзве лямпачкі гараць — хопіць і адной. Заахвочвайце кожнага, хто сэканоміць дзяржаве хоць капейку. Прыклад дбайнасці аднаго — навука ўсім!

Вынікам мерапрыемства стала пастанова, у якой даводзілася да кожнага супрацоўніка, ад прыбіральшчыцы да адміністратара, што эканомія і беражлівасць — галоўныя фактары эканомікі прадпрыемства.

Заклік дырэктара не застаўся без увагі. У калектывах як маглі



спрыялі новай палітыцы кіраўніцтва. Працоўнымі былі ўжыты сучасныя метады работы, і вынік стаў ашаламляльным — тысячы рублёў эканоміі за месяц!

— Рана нам расслабляцца, — чарговы раз выступаў Іван Іванавіч. — Гэта толькі пачатак! А вакол столькі магчымасцей не толькі па электраэнергіі, але і па цяпле. Прапаную замовіць агітплакаты і інфармацыйныя стэнды па тэме эканоміі, а ў кожным падраздзяленні стварыць новыя аддзелы па ўкараненні беражлівасці. Шукайце патрэбныя кадры.

— Усё гэта з'есць сэканомленыя намі грошы, — нясмела заўважыў хтосьці з прысутных. — Нават у мінусе застанёмся...

— Нічога страшнага, гэта ўсё дзеля эканоміі. Нас не спыняць ніякія дадатковыя выдаткі. Замоўце як мага больш інфармацыйных стэндаў!

Іван Іванавіч — мудры кіраўнік, ён ведае, што кажа:

— Няхай усе бачаць, якія мы эканомныя!

**Даслаў Віталь ЖУРАЎСКІ,**
*г. Жодзіна.*

Хадзем дадому, хопіць глядзець на лябёдак!

Пётр КОЗІЧ.









Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ х 3.

# Песенька аўтааматара

Я пра чарку і жанчыну
Думкі выкінуў свае.
Як купіў сабе машыну –
Не вылажу з-пад яе.
Пэўна, стартар вінаваты,
Не заводзіцца матор.
І купляю я дахаты
Не каўбасы, а жыклёр.

Не сварыся, мая жонка,
Я ж не вінаваты.
Дзве зарплаты – калясо
Плюс акумулятар.

На дарозе зноў бядота –
Ні туды і ні сюды.
Не даехаў да работы:
Пагарэлі правады.
Жонка пачала сварыцца:
– Цешчу ў горад завязі!
Ды не трапілі ў сталіцу –
Адказалі тармазы.

Жонка болей не крычыць,
Ды і як сварыцца,
Калі з цешчай мы ляжым
У адной бальніцы?

Пра гарэлку і жанчыну
Думкі выкінуў свае.
Як купіў сабе машыну –
Не вылажу з-пад яе.
А навокал «мерседэсы»,
«БМВ» на ўсіх парах.
Толькі я у век прагрэсу
На старэнькіх «Жыгулях».

Не сварыся, мая жонка,
Што жыццё – не цукар-мёд...
Выйграю у латарэю,
Можа, купім верталёт!

**Кастусь ЦЫБУЛЬСКІ,**
*г. п. Ждановічы.*

## Тэатральнае жыццё

*Іранеска*

Мы з жонкай Настачкай не вялікія тэатралы, але зрэдку ў тэатры бываем. Справа гэта карысная. Спектаклі сапраўднае жыццё адлюстроўваюць, а яно, вядома, вельмі разнастайнае і няпростае. Не адны там шуры-муры паказваюць, хоць і без гэтага не абыходзіцца. Ёсць спектаклі і пра сяброўскія адносіны, і пра выхаванне моладзі, і пра тое, як трэба змагацца з уласнымі недахопамі... Шмат чаму вучыць нас тэатр, пачуцці абуджае самыя розныя.

Узяць хоць бы спектакль пра Рамэа і Джульету. Паглядзелі мы яго з жонкай, і мне адразу маладосць прыгадалася. Нават стаў я неяк інакш на сваю Настачку паглядаць, зноў убачыў, якая яна ў мяне прыгажуня. Прыпомніў і свайго саперніка, што да Настачкі заляцаўся. Ён на мяне тады сабаку нацкаваў — усе штаны ўздоўж і ўпоперак падраныя былі! Добра яшчэ, што без крыві абышлося. Але і я ў даўгу не застаўся: моцную аплявуху ў падарунак пакінуў.

А нядаўна мне спадабаўся спектакль, у якім палюбоўніца свайго каханага так прыгожа частавала, нават ікру купляць не забывала. Жанчына добра ведала, што шлях да сэрца мужчыны ляжыць праз страўнік, таму свайго дабілася: жонка, як ні сумна, засталася ўбаку. Пасля спектакля адносіны да харчавання ў маёй Настачкі рэзка змяніліся, стала яна больш на кухні завіхацца. Цяпер на стале рэдка скварчыць яечня, усё часцей каханая частуе адбіўнымі, катлетамі, дранікамі, смажанкай. Вялікая фантазія ў гэтай справе ў маёй жоначкі разыгралася. І усё вельмі смачна прыгатавана, пальчыкі абліжаш!

Хадзіце ў тэатр часцей, не пашкадуеце!

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*







Аляксандр ПЯТРОЎ х 2.

## Непастаянны муж

*Усмешка*

— От, мой Васіль бывае такі цудоўны, лагодны! Тады і праўда адчуваю, што ён у маім сэрцы, — хваліцца сяброўцы Люба.

— А хіба ён бывае і дрэнны?

— Як нап'ецца, то адразу ў пячонкі лезе, тады і глядзець на яго не хочацца...

**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*




Толькі калі мы дасягаем мэты, мы вырашаем, што шлях быў правільным.
*Поль Валеры, французскі паэт*

З раўнівых жаніхоў выходзяць абыякавыя мужы.
*Томас Майн Рыд, англійскі пісьменнік*

Дасціпнасць — як талент: лепш не мець зусім, чым мець недастаткова.
*Самеры, французская пісьменніца*

Каханне глядзіць праз тэлескоп, зайздрасць — праз мікраскоп.
*Джош Білінгс, амерыканскі пісьменнік і камедыянт*

3 серыя

Серыял Вожыка ПАДМАНАМАНІЯ

# Адфільтравалі...






























Працяг будзе…

## Не лічыце грошы ў чужых кішэнях

Зайздросціць дрэнна. Нездарма ж у народзе кажуць: ніколі не лічыце чужыя грошы. Асабліва ў чужых кішэнях. Але адзін мінчанін усё ж сутыкнуўся з непадпарадкаваннем правілу. Падчас паездкі ў аўтобусе ён заўважыў, што незнаёмы з хаўруснікам сцягнуў у яго партманет з грашыма. Мужчына адразу ж паспрабаваў вярнуць сваю маёмасць. Як на тое ліха, аўтобус спыніўся на прыпынку і адразу ж, як адчыніліся дзверы, злодзеі кінуліся наўцёкі.

Аднаго ўсё ж такі атрымалася дагнаць. Той яшчэ да прыезду міліцыі сазнаўся, што партманет не ў яго, а ў сябра. Змоўшчыка ў хуткім часе таксама адшукалі. Высветлілася, што злодзеі ўжо сядзелі за кратамі за кішэнныя крадзяжы.

Узбуджана крымінальная справа. Невядома, ці выправіць турма іх дрэнныя звычкі, таму папярэджваем: сачыце за сваімі кішэнямі, ахвотнікі залезці ў іх заўсёды знойдуцца.




## Звярыныя звычкі

Зайцы – прыгожыя стварэнні, якія часцей за ўсё выклікаюць у людзей замілаванне. Але любы паляўнічы вам скажа, што не такія ўжо яны і бяскрыўдныя. Могуць і за руку цапнуць, калі жывёліне пагражае небяспека.

Такія ж выпадкі сустракаюцца і сярод двухногіх «зайцоў». Так, у Баранавічах, у грамадскім транспарце злавілі безбілетніка. Калі ён зразумеў, што яму пагражае штраф, то спачатку ўдарыў кулаком у галаву кантралёра-касіра, а потым... укусіў дружынніка.

І калі б дзікай жывёліне прабачылі такую рэакцыю, то мужчыне, хоць ён і «заяц», не пашанцавала. Яго затрымалі. Цяпер безбілетніку пагражае да пяці гадоў зняволення. Безумоўна, гэта адвучыць яго ад звярыных звычак.

## Малюнак замест тысячы слоў

Здараецца так, што звычайны малюнак можа замяніць тысячу слоў. Гэтую думку пацвярджае адна гісторыя, якая здарылася ў Калінкавічах.

37-гадовы мазыранін бадзяўся п'яным па вуліцах горада. Калі ён ішоў па праезджай частцы дарогі, яго затрымалі супрацоўнікі ДАІ, склалі пратакол і афармілі штраф. Але мужчына нават не думаў яго аплачваць. Тады яму прыйшла павестка з прапановай прыйсці ў міліцыю. Мазыранін так раззлаваўся на праваахоўныя органы, што ў яго нават слоў не знайшлося для адказу. І ён прыняўся маляваць. Ды настолькі разышоўся, што атрымаўся цэлы комікс з эратычным падтэкстам. Потым прыкалоў яго да павесткі і адправіў назад у ДАІ.

Вось толькі там яго мастацтва не ацанілі і ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле «Выраб і распаўсюджанне парнаграфічных матэрыялаў або прадметаў парнаграфічнага характару». Калі б мазыранін ведаў, чым для яго абернецца творчасць, то, безумоўна, выбраў бы звычайны эпісталярны жанр.

## Каб і хацеў – не прыдумаеш!

У актавай зале школы быў зафіксаваны павышаны ўзровень інтэлігентнасці, выхаванасці і высакародства.

Галовы пасерабрылі ніткі мудрасці.

*(З артыкулаў у газеце).*

Калі вы куды-небудзь улезлі, дык зрабіце гэта эканамічна!

*(З выступлення).*

**Запісаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




# Прафесія мары




*Фельетон*

Сяргей Міхайлавіч сядзеў каля тэлевізара і з хваляваннем чакаў футбольнага матча. Ох, як жа ён быў рады гэтай падзеі! Раптам у суседнім пакоі зарагатала дачка. Мужчына крыху засмуціўся: ён жа прасіў Вераніку даць яму гадзіну-другую цішыні.

– Ніка, ну калі ласка, мы ж дамаўляліся, – прачыніў дзверы ў пакойчык дачкі Сяргей Міхайлавіч.

– Тата, хадзі сюды, я нешта пакажу! Табе спадабаецца, – працягвала заліваца смехам дзяўчынка.

Сяргей Міхайлавіч сеў на стул каля Веранікі, з цікавасцю ўтаропіўся ў манітор камп'ютара і рашуча кіўнуў, маўляў, паказвай. Вераніка ўключыла відэа, дзе падлетак купаўся ў ванне з чыпсамі. Праз паўхвіліны, заўважыўшы відавочны скептыцызм на бацькавым твары, Ніка адкрыла іншую ўкладку. На відэа некалькі чалавек, зноў падлеткі, намагаліся пабудаваць замак з туалетнай паперы. Кожны з ролікаў прагледзела па некалькі мільёнаў чалавек...

Рой пытанняў завіраваў у галаве Сяргея Міхайлавіча: «Што кіруе юнакамі? Якія ў іх матывы? Здабыць папулярнасць? Але ж гэта хутчэй ганьба. Зарабіць грошай? Толькі ці заплаціць хто за замак з туалетнай паперы? А можа, адшукаць крыніцу творчага самавыяўлення ці данесці да шырокай аўдыторыі нейкія свае думкі?»

Сяргей Міхайлавіч разгублена паціснуў плячыма:

– Неяк гэта несур'ёзна...

І тут панеслася. Дачка амаль крычала:

– Ты нічога не разумееш! Відэаблогеры вельмі знакамітыя, яны натхняюць сваю аўдыторыю на творчасць. Гэтыя хлопчыкі і дзяўчынкі такія неверагодныя грошы зарабляюць, ты нават і ўявіць сабе не можаш! І ведаеш, я падумала і вырашыла, што ні ў які ўніверсітэт паступаць не буду. Лепей купіце мне добрую відэакамеру. Бо вось яна, прафесія мары! Для яе ніякай адукацыі не трэба.

Збянтэжаны Сяргей Міхайлавіч не знайшоў, што адказаць, і ціхенька выйшаў з пакойчыка. Ён зразумеў: акрамя музычных кліпаў, навін, запісаў з аўтамабільных рэгістратараў, катоў і сабак, ёсць у сферы відэаблогінга немалая колькасць ролікаў, растлумачыць сэнс якіх практычна немагчыма. Яны незразумелыя, абсурдныя і выклікаюць у галаве толькі адно пытанне: «Што гэта было?» Як правіла, і здымаюць, і глядзяць такі шлак падлеткі.

Прыгадаў Сяргей Міхайлавіч і нядаўна прачытаную гісторыю: відэаблогер-пачатковец з Гомельшчыны падпаліў сябе ля помніка. Пры гэтым яго радасна пад'юджвалі сябры, без долі перажывання і боязі, што з хлопцам можа здарыцца нешта страшнае. На што ж падштурхоўвае падлеткаў гарачае жаданне феерычна ды імгненна стаць папулярным? Аўдыторыя ўражаная і абураная, над відэаблогерамі смяюцца і асуджаюць, але ролік працягваюць глядзець і распаўсюджваць.

Атрымліваецца, што на відэахостынгах пастаянна ўзнікаюць новыя персанажы, якія мараць праявіць сябе. Так званы «нізкі бар'ер» уваходу дазваляе любому ахвотніку займець уласны відэаблог. І самае жахлівае, што відэахостынгі ўжо не проста пляцоўка для творчага самавыяўлення, а яшчэ і сродак масавай камунікацыі. Відэаблогеры становяцца больш знакамітымі, чым медыйныя персоны – акцёры, музыканты, палітыкі. Менавіта яны сапраўдныя лідары меркаванняў для моладзі. Могуць лёгка ўплываць на свядомасць сваёй аўдыторыі, кіраваць яе настроем, стаўленнем да тых ці іншых рэчаў і падзей, фарміраваць звычкі.

Цяжка ўздыхнуў Сяргей Міхайлавіч: як выратаваць Вераніку ад тых ідэй, нормаў і каштоўнасцей, якія транслююцца відэаблогерамі? Вырашыў, што будзе больш надаваць увагі развіццю дачкі. Калі не дапаможа і Вераніка ўсё ж вырашыць стаць відэаблогерам, то толькі на адной умове: яе ролікі будуць чамусьці вучыць і несці толькі карысць.

**Алеся НІКІФАРАВА,**
*г. Віцебск.*






## Заслуга



У працы шмат раблю я браку
Ды выклікаю кпіны, злосць.
Не лайце моцна небараку!
Адна ў мяне заслуга ёсць.

Няўдалы, можа, я ў рабоце,
Няўдалы, можа, і ў жыцці.
Аднак станоўчы бок, дазвольце,
Дапамагу ў сабе знайсці.

Калі надумаўся вучыцца –
Медінстытут я не абраў.
Тым самым – як тут не згадзіцца? –
Здароўе людзям ўратаваў...

**Сцяпан ЦАРЫК,**
*г. Брэст.*



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.



Аляксандр ШМІДТ.

## Што адказаць?



Здараецца, мяняеш ты работу
З прымусу ці з уласнае ахвоты.
Начальнік на сумоўе выклікае,
Да прэтэндэнта шмат пытанняў мае.
– Які разрад, прафесія якая?
Нам важна ведаць, хто чаго шукае.
Скажыце шчыра: п'еце ці не п'еце?
П'янтос у нас заўсёды на прыкмеце...
Што адказаць яму на тыя словы?
Прызнаць, што п'еш, – адразу і адмова.
Сказаць «не п'ю» – начальніка ўстрывожыш:
Відаць, з прычыны нейкае не можаш.
Закідваў, пэўна, ты раней замнога,
І доктар вёў з табой гаворку строга.
Які з такога мужыка работнік?
Магчыма, да бальнічных ён ахвотнік...
– Ці п'еш? – трывожна зноўку запытае.
Тут тактыка найлепшая такая:
– Калі сказаць па праўдзе, то магу.
А ўвогуле – здароўе берагу.

**Мікалай ГЛЕБ,**
*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*






Сяргей ВОЛКАЎ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ Х 2.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ і Ганна СІНІЦА.

## Пра адпачынак на дачы і «мача»



Адпачынак на зыходзе –
Я ж адно толькі стагну
Ад таго, што ў агародзе
Трэці тыдзень спіну гну.
І вакол не пальмы з мача,
А цыбуля, кабачок...
Свету белага не бачу,
Вочы збегліся ў пучок.
Хоча мой сусед, здаецца,
Разагнаць нуду і сум.
Уперыцца – няма дзе дзецца! –
На купальны мой касцюм.
– Гэй, суседка, страпяніся,
Стань са мной, пагавары!
– Няма часу, адчапіся:
Шмат работы пры двары...
Паглядзеў праз плот з дакорам –
Кінь, маўляў, ты кабачкі!
...Мне ж хацелася б на мора
І загар на два бачкі.

**Наталля ДЗІСЯК,**
*Капыльскі раён,*
*агр. Новыя Доктаравічы.*

## Балаболка



Хто не знае бабку Машку?
Мае не язык – мянташку.
Бегае па вёсцы з рання,
Ўсё выведвае дазвання,
Каб пасля пераказаць,
Трошкі ад сябе дадаць...
– У суседкі маёй Каці
Зяць зарэзаў парася.
Прыязджала ўчора сваццця –
У дугу сагнута ўся!
Ноччу ў Ганны выў Палкан –
Кажуць, лез хтось праз паркан.
Плёткі так складзе, як вершы:
Ўсё дакладна! З вуснаў першых!
Ды даўно ніхто не рады
Гэтым Машкіным «аглядам».
Праўды там – на донцы толькі...
Клічуць бабку балаболкай.

**Генадзь СУКАЧОЎ,**
*Рэчыцкі раён,*
*в. Якімаўка.*

**Георгій МАРЧУК**



# ХТО КАГО

*Гумарэска*

Таксіст Слава і яго жонка Юля, супрацоўніца гарадскога зелянбуда, – добрыя людзі. Аднак час ад часу могуць пасварыцца з-за любой дробязі. Вялікай драмай такія сваркі не заканчваліся, але ж настрой псавалі.

У добрым гуморы пара павячэрала. Тры гадзіны ночы, цішыня, глыбокі сон. Юлі прымроілася, што яна, нібыта біблейская Ева (днём яе служба высадзіла каля паўсотні клёнаў), каля аднаго з дрэў чакае свайго Адама. Славу снілася, што ён Адам, стаіць побач з Еваю і чакае, пакуль яна дасць яблык. Раптам у чароўны сон уварваўся страшны грукат.

Слава і Юля прачнуліся разам.

– Чуў? Грымнула нешта цяжкае ў суседа зверху.

– Ага. Давай спаць, – адказаў Слава, паварочваючыся на другі бок.

Юля дыбанула мужа ў плячо.

– Што гэта? – спытала яна.

– Адкуль я ведаю? Можа, хтосьці аступіўся ды ўпаў.

– Чалавеку так грымнуцца?.. Мазгі не збярэш.

– Можа, не галавой, іншым месцам. Табе якая справа? Малаток, можа, упаў.

– Не смяшы мяне, – Юля ўключыла таршэр. – Які малаток? Што можна ім рабіць у тры гадзіны ночы?

– Чорт яго ведае. Можа, будаваў шпакоўню, каб раніцай павесіць на дрэва, – адказаў Слава.

– Шпакі даўно прыляцелі. Не спі. Як ты можаш спаць?

– Там што, атамная бомба ўзарвалася? Можа, гантэля ўпала. Ён качае мышцы, каб падабацца жанчынам.

– Ты дурнаваты ці прыкідваешся? Чуў, які быў грукат? – павысіла голас Юля.

– Я не глухі... Малаток ці гантэля, – Слава сеў у ложку.

– Божа мой! Вазьмі малаток, – загадала жонка.

Славай пайшоў у калідор, доўга шукаў на атрэсолях інструмент.

– Ну?

– Кінь яго на падлогу.

– Гатова. І што?

– Цяпер зразумеў? Ад такога гуку не прачнуліся б, – задаволена сказала Юля.

– Не ведаю. Можа, самагон гнаў ды бутля ўпала.

– Вазьмі гантэлю, – папрасіла жонка.

– Дзе я табе яе вазьму?

– Пазвані суседу, пазыч. Ён фізкультурнік. Такая неабходная рэч, а ў нас няма ў кватэры.

– І што ён падумае? – здзівіўся Слава.

– Хопіць упарціцца. Ты хочаш, каб я не заснула да раніцы?

Слава згадзіўся. Пайшоў да суседа, пабудзіў і папрасіў гантэлі. Той, нічога не разумеючы, паслаў начнога госця на першы паверх да сябра, якому даў пакарыстацца гантэлямі і васьмікілаграмовай гірай. Злы Слава пацягнуўся з сёмага на першы. Забраў і гантэлі, і гіру. Праклінаючы ўсё на свеце (ліфт як заўсёды не працаваў), Слава папёр спартыўныя снарады на шосты паверх.

Жонка скамандавала:

– А цяпер кідай гантэлю на падлогу.

Слава паслухаўся.

– Не, не той гук, – расчаравана сказала Юля.

Будзільнік паказваў чатыры гадзіны.

– Слухай, а навошта суседу сярод ночы гіра? – спытала жонка.

– Хто яго ведае. Можа, ён прыхільнік якой-небудзь закрытай рэлігіі або акультнай секты... Давай спаць.

– Так і скажы, што не кахаеш мяне, не лічышся з маёй думкай. Ты пазбаўлены фантазіі.

– Ат, перакаці поле, можа, шафа ўпала?

– Шафа перабор. Гэта гіра...

– Добра. Няхай будзе па-твойму.

Слава падхапіў гіру і шмякнуў з усёй сілы яе аб падлогу.

З кватэры суседзяў знізу пачуліся галасы, потым грукат па батарэі. Данесліся словы:

– Супакойцеся! Зараз міліцыю выклічу!

– Я ж сказала, гэта была гіра. Ніколі са мной не спрачайся... – канстатавала Юля.

Слава больш не хацеў яе слухаць. З галавой накрыўся коўдрай, стараючыся прагнаць працяг сну, дзе ён быў Адамам, а яго жонка Евай.

*г. Мінск.*

# Усяго патроху!



Наталля КАБЯКОВА
і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.






Анастасія СКАРКО і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.







Віктар КОХАН х 3.




## ЧАМУ ЖАБКА ВАДУ ЛЮБІЦЬ?

Жабка скокнула ў ваду:
«Больш у лес я не пайду,
Бо надоечы ў бары
Закусалі камары.
Тут, у возеры, камар
Нада мною не ўладар.
Як уратавацца — знаю:
Спінку пад вадой хаваю.
Калі ж блізка падляціць —
То яму не доўга жыць!»

**Святлана БЫКАВА,**
*г. Заслаўе.*

## ГАНАРЛІВЫ ПАПУГАЙ

Мне купілі папугая,
Ён са мной не размаўляе...
Я спытаў: «Ты хто такі?
Дзе жывуць твае бацькі?
Хто ты — ара ці карэла,
І чаму такі нясмелы?»
Гоша крылы распасцёр,
Гучна крыкнуў: «Я — арол!»
З таго часу — дзень за днём —
Клікаў сябра я Арлом.

**Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*

**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ**

## Загадкі (грыбы)

Стаіць чырвоны парасон,
Увесь у белых плямках ён.
Хоць і грыб, ды не з'ясі ты,
... той — ядавіты.

*(Мухамор.)*

***

Капялюш насунуў белы
І глядзіць з травы нясмела,
Асцярожна, як шпіён.
Грыб завецца ...

*(Шампіньён.)*

***

Грыб прыгожы неспадзеўкі
Ў лесе я знайшоў пад елкай.
Шакаладны капялюш,
Быццам просіцца: «Не руш!»
Падказаў сусед-грыбнік:
Гэта, Жэня, ...

*(Баравік.)*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




## «Зайчык» і «Парсючок»

Малы згубіўся ў натоўпе і плача. Нейкая спачувальная кабета пытаецца:

– Скажы хоць, як клічуць тваіх бацькоў?

– «Зайчык» і «Парсючок», – праз слёзы паведаміў хлопчык.

## Канікулы



– Яська, а чаго ты так плачаш?

– Бо ў Андрэйкі ёсць канікулы, а ў мяне няма.

– А чаму ж у цябе няма?

– Бо я яшчэ не хаджу ў школу...



## Трэба ўмець

Маці незадаволена аглядае малога Кольку:

– Чаму ў цябе такія брудныя боты? На дварэ суха, і дзе гэткае балота можна знайсці?

– Можна, мама. Трэба толькі ўмець шукаць!

## Паліглот

Аднойчы малы Сярожа заявіў:

– Я размаўляю па-руску, па-французску, па-англійску і па-іспанску.

– Добра. А як будзе па-іспанску «да пабачэння»?

– Аўф відэрзэен!

– Але ж гэта па-нямецку...

– Ага, дык я і нямецкую мову ведаю!



## Конь

– Тата, а як называецца маці каня?

– Кабыла.

– А бацька каня?

– Жарабец.

– А дзіця каня?

– Жарабё.

– Тата, дык выходзіць, што няма такога каня, які называецца «конь»?



**Падслухаў Леў КАЗЛОЎ,**
*г. Мінск.*







## «Вады баюся»

Стаіць хлопчык за хатай, змок увесь, дрыжыць ад холаду. Добра, што бацька ішоў з працы. Убачыў малога, падхапіў на рукі, прытуліў да грудзей і са здзіўленнем спытаў:

– Ад каго ці ад чаго ты тут хаваешся?

Сынок шэптам адказаў на вуха:

– Бабуля хоча мяне памыць, а я мыцца не люблю – вады баюся.

**Даслала Ірына КАРАЧУН,**
*г. Баранавічы.*




І чалавек з цвёрдым характарам часам атрымоўвае па мяккім месцы.

Слова не птушка, аднак можа ствараць крылатыя выразы.

І ў салаўя можа быць лебядзіная песня.

**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г.п. Уваравічы.*

# Усмешкі

## Не мужчына

У мясным аддзеле муж і жонка купляюць добры кус свініны. Гаспадыня прылаўка ўзважыла тавар, зняла з вагаў і кажа:

– Мужчына, вазьміце, калі ласка!

Жонка злосна зыркае ў яе бок і адказвае:

– Ніякі гэта не мужчына! Гэта мой муж...

**Даслаў Мікалай НАВАРЫЧ,**
*г. Мінск.*

## Ужо салідны

Сакратарка дырэктара фірмы падае трубку службовага тэлефона маладому супрацоўніку, які задумліва разгадвае крыжаванку, і кажа:

– Там нейкая жанчына просіць да тэлефона Федзеньку... Відаць, гэта вас?

Начальнік здымае трубку і нервова адказвае:

– Цёця Анжэла, я ўжо не Федзенька! Час запомніць, што я Фёдар Іванавіч! І ўзначальваю цэлы аддзел! Я даўно не маленькі, цёця! І не адрывайце мяне ў службовы час ад важных спраў!..

**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

## Чарэшні

Вовачка з мамай ходзяць па прадуктовым магазіне. Гаспадар, убачыўшы хлопчыка, звярнуўся да яго:

– Набяры-ка сабе яшчэ свежых чарэшняў. Толькі што даставілі. Паглядзі, якія яны спелыя і смачныя.

Але Вовачка нават не зварухнуўся.

– Ты што, не любіш ягад? – спытаў яго гаспадар.

– Люблю, – адказаў Вовачка.

Тады гаспадар сам набраў поўныя прыгаршчы чарэшняў і насыпаў іх у кепку хлопчыка.

Калі яны выйшлі з крамы, мама спытала ў сына:

– Чаму ты адразу не ўзяў пачастунак, калі гаспадар прапанаваў табе?

– Таму, – адказаў Вовачка, – што яго рукі значна большыя за мае...

**Даслаў Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.







Пётр КОЗІЧ х 2.




*Дружа Вожык!*

«Чаму людзі не лётаюць? Я кажу, чаму людзі не лётаюць, як птушкі?» Памятаеш гэтыя словы з «Навальніцы» Астроўскага, калючы браце? Упэўнены, што так! Ды, мяркую, хутка класіка зробіцца неактуальнай. Чаму? А вось паглядзі.

Колькі гадоў таму з'явілася ў сталіцы так званая інфраструктура для веласіпедыстаў. Чаму «так званая»? Ды таму, што з усёй «інфраструктуры» толькі дзве, тры, пяць з паловай асобна заасфальтаваных веладарожак у паркавых зонах, а астатняе – разметка па тратуарах ды сям-там круглыя сінія знакі. Ну, добра, пешаход у нас памяркоўны, не сквапны, тратуарам падзеліцца. Але ж глядзі, браце «Вожык», як яно бывае.

На здымку – тратуар на праспекце Пушкіна насупраць гатэля «Арбіта». Бачыш, як нехта скараціў пешаходную зону на карысць веласіпеднай? Ці то разлічвалі на шчыльную лавіну руху веласіпедыстаў (пэўна, у перспектыве), ці на павелічэнне памераў веласіпедаў да аўтобусаў, ці, нават, танкаў. Пешаход жа ў нас памяркоўны, пасунецца...

Але ж калі так пойдзе і далей, то пешаходная зона на тратуары можа быць і цалкам скасаваная. А побач з'явяцца пагрозлівыя таблічкі: «Па газонах не хадзіць!»

Вось тады і паляцім. Як птушкі...

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*






Мікола ГІРГЕЛЬ.



## Анекдоты



З размовы сяброў.

– А маёй жонцы не падабаецца, што я храплю.

– Дык ад чаго ты хочаш пазбавіцца: ад храпу ці ад жонкі?

* * *

Студэнт вяртаецца ў інтэрнат пасля іспыту.

– Ну як, быў на экзамене? – пытаецца сусед.

– Ага.

– Які білет выцягнуў?

Той глыбока ўздыхае:

– Ваенны...



* * *

На прыёме ў тэрапеўта.

– Сёння ваш кашаль мне не падабаецца, – кажа доктар.

– Дык я ж усю ноч трэніраваўся! – тлумачыць пацыент.



**Сабрала Тамара СЯНКЕВІЧ,**
*г. Навагрудак.*



# Эротыкатуры Алега ГУЦОЛА



16+

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 8 (1547), 2017 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by; vozhyk@zviazda.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 05.08.2017. Фармат 60x84 $^1/_8$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,45. Тыраж 844 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






